Выходзіць з 20 снежня 1945 года




# НАСТАЎНІЦКАЯ

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 70 (5401)
Чацвер, 13 чэрвеня 2002 года


Лета-2002

## У Нарачанскай дзіцячай краіне

Пытанні сыпаліся адно за другім, ля мікрафона ў зале выстраілася чарга дапытлівых падлеткаў, і літаральна праз паўгадзіны ў нас узнікла ўражанне, што гэтым пытанням увогуле не будзе канца. Нехта кінуў рэпліку: "А ці не хочацца на Нарач?" А ў адказ: "Не, там яшчэ вада халодная для купання". Прэс-канферэнцыя з журналістамі дзіцячай, маладзёжнай і педагагічнай прэсы набірала абароты. Юным лідэрам і аматарам пяра, часовым насельнікам рэспубліканскага аздараўленчага летніка "Зубраня" было цікава даведацца ад нас пра ўсё: як робіцца газета, на якія тэмы варта пісаць, як стаць галоўным рэдактарам, чаму мала матэрыялаў пра музыку, зорак кіно, пра ўзаеміны вучняў і педагогаў, бацькоў і дзяцей, пра розныя прафесіі і ў якіх ВНУ іх набыць.

У прыватнасці асабіста ў мяне адна дзяўчынка запыталася, ці можа наша газета апублікаваць яе заметку і якія праблемы дзяцей нас, журналістаў, больш за ўсё хвалююць. Другая юная асоба пацікавілася, як наша газета падтрымлівае беларускую паэзію. А трэці падлетак нават выказаў такое меркаванне: "Мае бацькі - педагогі, і "Настаўніцкая газета" для іх вельмі аўтарытэтная. Некаторыя настаўнікі чытаюць пра новыя тэхналогіі ў навучанні і адразу стараюцца іх укараніць у сваёй працы, што не зусім даспадобы нам, вучням. Ці можа "НГ" патлумачыць педагогам, што ім не варта занадта захапляцца гэтымі тэхналогіямі?" Вось такія разумныя, дасведчаныя нашыя дзеці.

Застаецца парадавацца за іх, а яшчэ таму, што тут, у летніку, яны атрымалі магчымасць праявіць сябе, свае здольнасці ў канкрэтных справах, якімі поўніцца штодзённа жыццё падлеткаў.

- Дзеці ў нашым летніку разам з дарослымі самі арганізуюць свой актыўны адпачынак. Мы, педагогі, важатыя, з самага пачатку даем ім пэўную ўстаноўку, якая гучыць прыкладна так - "Кожнае ваша слова мы памятаем, кожная ваша слушная думка не прападзе дарэмна", - гаворыць педагог-арганізатар Марына Шашкова. - Ведаеце, гэта толькі першыя дні ім няпроста ў летніку: складана прывыкнуць да распарадку дня, да захавання сістэмы законаў і правілаў, да наладжвання асабістых кантактаў. І тут мы, педагогі, псіхолагі, імкнемся дапамагчы ім. Якім чынам? Пачынаем вывучаць іх здольнасці, інтарэсы, рысы характару, а потым, у адпаведнасці з асабістым рэйтынгам кожнага, наладжваем жыццё дзіцячага калектыву". Поспеху дабіваюцца педагогі-прафесіяналы, якія разумеюць, як важна падняць "статус" кожнага дзіцяці ў вачах яго сяброў, - працягвае яна. - Дзеці ў нашым летніку пачынаюць сцвярджаць сябе літаральна з нуля. Тут адсутнічаюць усялякія ярлыкі і стэрэатыпы ў адносінах да іх з боку дарослых. Мы гаворым: калі ласка, праяві сябе, а мы паглядзім і будзем прымаць цябе такім, які ты ёсць на самай справе. Так, напрыклад, дзяўчынка, якая балаціравалася ў прэзідэнты нашай своеасаблівай краіны, напісала: "Я ў сабе аб'ядноўваю шмат-шмат розных Я". І гэтыя яе словы пра многае сведчаць.



* * *

- Хадземце да нас, - паклікалі мяне дзяўчынкі, удзельніцы прэс-канферэнцыі, якія сядзелі на драўляным пірсе, што ўрэзаўся ў блакітную роўнядзь возера. І тут нарэшце пачало збывацца маё прадчуванне Нарачы...

Міжволі распачалася шчырая размова:

- А вы чыталі вершы У.Караткевіча, што надрукаваны ў "Нашай Ніве"? Я вельмі люблю гэтага пісьменніка, - сказала Жэня.

- А сама вершы пішаш? - Так, але пакуль нікому не паказваю. Мару паступіць у педуніверсітэт на факультэт беларускай філалогіі. А можна да вас у рэдакцыю прыйсці з сяброўкамі, паглядзець як робіцца газета?

- Канешне.

І мне стала хораша на душы. Мае прадчуванні ад сустрэчы з Нараччу нечакана прыемна ўзбагаціліся знаёмствам з такімі вось цудоўнымі дзяўчынкамі, якія і ў наш час імкнуцца больш чытаць, чым глядзець тэлевізар, і канешне ж, марыць... Як захаваць гэта ўсё, запомніць, не разгубіць?..

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**
**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**



Навіны

## 2002 - год мадэрнізацыі

***Развіццё інфармацыйных тэхналогій бударажыць чалавечы розум ужо больш як паўстагоддзя. Раней кожнае дзесяцігоддзе, год, а цяпер кожны месяц распрацоўшчыкі вылічальнай тэхнікі заяўляюць пра новыя дасягненні. А праз нейкі час і гэтыя навінкі становяцца будзённымі. Камп'ютэры назаўсёды ўвайшлі ў наша жыццё. Сёння паўнацэнная работа з тэкстамі, фотаздымкамі і відэаграфікай немагчымая без Інтэрнета і электроннай пошты, а займальны адпачынак для многіх пачынаецца толькі тады, калі ўключана гульнявая прыстаўка.***

І ўсё ж вядучыя вытворцы працэсараў вектар сваіх даследаванняў накіроўваюць на прафесійных карыстальнікаў ПК. Менавіта яны ацэньваюць на практыцы ўсе прапановы. Адну з апошніх у канцы мая прадставіла кампанія Intel.

У Маскве расійскімі дылерамі кампаніі былі выстаўлены на агляд новыя камп'ютэры на базе мікрапрацэсараў для настольных сістэм Intel Pentium-4 з тактавымі частотамі 2,53, 2,40 і 2,26 ГГц. Усе тры наборы мікрасхем - 845G, 845E, 845GL - аснашчаны інтэграванымі сродкамі падтрымкі высакахуткаснай універсальнай паслядоўнай шыны (USB 2.0).

Як адзначыў на прэс-канферэнцыі спецыяліст расійскага прадстаўніцтва Intel па прымяненню прадукцыі Віталь Бяляўцаў, новыя працэсары забяспечваюць карыстальнікам больш высокую прадукцыйнасць, якая ў сваю чаргу дае магчымасць для шырокапалоснай перадачы лічбавых музычных запісаў, фатаграфій, фільмаў у лічбавым фармаце. Дарэчы, усплёск папулярнасці розных лічбавых прыстасаванняў з'яўляецца адным з галоўных фактараў попыту на наборы мікрасхем новага пакалення. Так, да канца 2001 года лічбавыя камеры ўжо мелі 33 працэнты амерыканскіх карыстальнікаў Інтэрнета. Паводле прагнозаў, да канца 2002 года гэты паказчык можа вырасці да 60 працэнтаў.

У той жа час наступствы пагаршэння сітуацыі на рынку персанальных камп'ютэраў у 2001 годзе адчувальныя і цяпер. У аналітычнай кампаніі Garther лічаць, што сёлета значнага росту рынку ПК не адбудзецца, гаворка пойдзе толькі пра мадэрнізацыю. У якасці адной з яе прычын адзначаецца неабходнасць абнаўлення машын папярэдняга пакалення ў сувязі з заканчэннем жыццёвага цыкла. У бліжэйшы час павысіцца цікавасць спажыўцоў да партатыўных камп'ютэраў. Што да базавай канфігурацыі, то ў канцы 2002 года, як прадказваюць спецыялісты, яна будзе ўключаць працэсар з тактавай частатой 3,5 ГГц, аператыўную памяць аб'ёмам 512 МБ жорсткі дыск ёмістасцю 300 ГБ.

**Ігар КАНДРАЛЬ.**

## У Беларусі пройдзе навукова-практычны семінар "Нематэрыяльная культурная спадчына: праблемы і перспектывы"

***Ён будзе наладжаны 20-21 чэрвеня ў Мінску. Яго арганізатарамі з'яўляюцца Нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА, Міністэрства культуры Беларусі, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны.***

Як паведаміў прэс-сакратар МЗС Павел Латушка, семінар праводзіцца ў рамках работы па падрыхтоўцы заяўкі на ўключэнне ў спіс ЮНЕСКА "Шэдэўры вуснай і нематэрыяльнай спадчыны чалавецтва" вуснага і песеннага фальклору Усходняга Палесся. Асаблівасцю гэтага рэгіёну з'яўляецца абсалютная унікальнасць вуснай спадчыны - традыцый, звычаяў, рытуалаў, якія страчаны іншымі славянскімі народамі, але захаваліся да сённяшніх дзён ва Усходнім Палессі.

**БЕЛТА.**

Семінары

## Прафесію выбіраем у першым класе

***Прафарыентацыя ў пачатковых класах - такога яшчэ не было. Пад эгідай РЦПАМ на базе сярэдняй школы № 30 Мінска быў праведзены семінар па тэме "Работа па прафесійнай арыентацыі ў пачатковых класах", куды былі запрошаны кіраўнікі метадычных аб'яднанняў пачатковых класаў сярэдніх школ Кастрычніцкага раёна сталіцы.***

З самых першых класаў дзіця набывае другую сям'ю, імя якой - школа. Калі дзіця ў сярэднім бывае ў ёй шэсць гадзін, дык гэта складае адну чацвёртую сутачнага часу. Але многія бываюць там і больш. Эканамічныя ўмовы сям'і ўсё менш і менш дазваляюць бацькам бываць са сваімі дзецьмі, гаварыць, абмяркоўваць, паказваць, вучыць і марыць з імі. А гэта азначае, што будучае нашай нацыі ў многім залежыць ад школьнага выхавання. Кожны маленькі чалавек абавязкова калісьці вырасце і стане шукаць сваё месца ў жыцці, у тым ліку і прафесійным. Задумваючыся над гэтым, прыходзіш да высновы, што сапраўднымі профі становяцца тыя, хто свой інтарэс да якой-небудзь справы падмацоўвае стараннямі і працавітасцю. Знакаміты дырыжор Міхаіл Фінберг прызнаўся ў інтэрв'ю, што, прыступаючы да работы ў аркестры, працаваў па 12-15 гадзін у суткі. А выхаванне любові да працы, станоўчых адносін да яе, працавітасці, цярпення, уседлівасці і іншых характэрных якасцей пачынаецца з ранняга дзяцінства, г.зн. з пачатковай школы. І галоўная роля ў гэтым працэсе належыць настаўніку. Таму размова аб рабоце па прафарыентацыі ў пачатковых класах і была распачата з кіраўнікамі метадычных аб'яднанняў настаўнікаў пачатковых класаў.

Цэлы навучальны год педагогі сярэдняй школы №30 Мінска Ядвіга Антонаўна Максімовіч і Тамара Эдуардаўна Барысенка працавалі над стварэннем праекта будучай праграмы па прафарыентацыі ў пачатковых класах. Ім нястомна дапамагала педагог-практык Таццяна Эдуардаўна Кахто. На семінары настаўнікі пазнаёмілі ўдзельнікаў з будучым тэарэтычным праектам праграмы па прафарыентацыі, расказалі пра мэты і задачы праграмы, аб формах работы па яе рэалізацыі, аб перыядах пачатку і пераходу на наступны этап.

Цікавай была практычная частка семінара, галоўнымі ўдзельнікамі якой сталі дзеці, вучні Т. Э. Кахто, якая на справе адпрацоўвала тэарэтычную частку праграмы. Каго толькі дзеці не прадстаўлялі? Гэта дызайнеры, будаўнікі, архітэктары, мастацтвазнаўцы, скульптары, шкловыдзімальшчыкі, артысты, музыканты, экскурсаводы па горадзе, пабудаваным сваімі рукамі. Выступленні дзяцей падмацоўваліся іх жа малюнкамі і доказамі ў практычнасці прымянення таго альбо іншага матэрыялу, з якога выраблены скульптуры. Шкловыдзімальшчыкі называлі сваю трубку чароўнай палачкай. Бо толькі з яе дапамогай можна вырабляць цуды са шкла. Дзеці расказвалі аб працэсе работы і неабходных інструментах, аб патрабаваннях да чалавечых якасцей той альбо іншай работы. Музычныя творы ў выкананні маладых артыстаў мелі свой поспех.

У рабоце семінара прымала ўдзел і псіхолаг школы Жанна Міхайлаўна Бізук. Яна засяродзіла ўвагу на неабходнасці і важнасці арганізацыі прафарыентацыйнай работы з пачатковых класаў. "Ва ўзросце "чамучак" важна падтрымліваць і развіваць любы інтарэс і вучыць іх не адступаць пры першых цяжкасцях", - гаварыла Жанна Міхайлаўна. Кіраўнікі метадычных аб'яднанняў атрымалі практычны матэрыял, які, спадзяюся, дапаможа развіваць і працягваць работу. Гэта слоўнікавыя словы для работы на ўроках рускай мовы па прафарыентацыі; прыкладны змест слоўніка прафесій для вучняў пачатковых класаў; віды работ са слоўнікавымі словамі; рэкамендаваныя экскурсіі; формы работы па прафарыентацыі ў пачатковых класах. У працэсе работы семінара паступалі прапановы аб дапаўненні ў праграму, якія будуць улічаны пры яе складанні на будучы год. Падымаліся пытанні пераемнасці сярэдняга звяна, назапашвальнасці матэрыялу.

**Раіса МАЛІНОЎСКАЯ.**

## У перамогі салёны прысмак

***У Мінску на беразе Цнянскага вадасховішча адбылася ваенна-спартыўная эстафета для дапрызыўнай моладзі. З ініцыятывай яе правядзення выступіла адміністрацыя Савецкага раёна сталіцы.***

Напярэдадні мерапрыемства ў навучальныя ўстановы раёна былі разасланы запрашэнні прыняць удзел у спаборніцтвах. Прыкладалася да іх і палажэнне аб правядзенні спаборніцтваў.

Неабходна адзначыць, удзельнікам ваенна-спартыўнай эстафеты трэба было вытрымаць няпростыя іспыты. Амаль трохкіламетровая дыстанцыя ўключала ў сябе не толькі бег па перасечанай мясцовасці. Падлеткі пераадольвалі таксама водную перашкоду, ажыццяўлялі вышынную пераправу над кастром, перапаўзалі пад калючым дротам, вызначалі азімут, дастаўлялі важныя данясенні, пераносіл параненых, вялі стральбу з пнеўматычнай вінтоўкі, кідалі сапёрныя лапаткі... За "праколы" на тым або іншым этапе спаборніцтваў суддзі назначалі штрафныя ачкі. А завяршылася эстафета раскладаннем камандай агня. Тым удзельнікам спаборніцтваў, хто не змог захаваць запалкі сухімі пасля пераадолення воднай перашкоды прадастаўлялася "крэсіва", але ў дадатак да яго зноў жа штрафныя ачкі.

Весткі

По адзінадушнаму меркаванню журы, у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі адміністрацыі Савецкага раёна сталіцы, інспекцыі па справах непаўналетніх, раённага ваеннага камісарыята, па выніках спаборніцтваў лепшым быў прызнаны ваенна-патрыятычны клуб "Тарнада". Хлапчукі, якія прадстаўлялі гэты клуб, умудрыліся адарвацца ад каманды Мінскага дзяржаўнага фінансава-эканамічнага каледжа, што заняла другое месца, ажно на дзесяць хвілін.

Зрэшты, раней "Тарнада" ўжо ўдзельнічаў у міжнародных спаборніцтвах, якія праходзілі ў Калінінградзе, куды з'ехаліся сорак чатыры каманды. Ваенна-патрыятычны клуб заняў тады шостае месца. Там жа, у Калінінградзе, удзельнікі "Тарнада" выступалі ў ролі інструктараў у ходзе экстрэмальнага лагера, арганізаванага для школьнікаў. На рахунку клуба - і іншыя перамогі.

Трэцяе месца ў ваенна-спартыўнай эстафеце заняла каманда сталічнага ПТВ №63.

Усім пераможцам былі ўручаны дыпломы і граматы. Граматай за волю да перамогі ўзнагародзілі таксама каманду Мінскага дзяржаўнага вышэйшага радыётэхнічнага каледжа.

Пасля заканчэння эстафеты каардынатар спаборніцтваў Аляксей Слінько ў размове са мной зазначыў: "Калі я глядзеў на хлапчукоў на фінішы, бачыў бляск у іх вачах, лішні раз пераконваўся, што такія мерапрыемствы вельмі важныя для падлеткаў".

Дарэчы, паводле слоў Аляксея Слінько, напачатку ў ваенна-спартыўнай эстафеце выказалі жаданне ўдзельнічаць нават дзяўчаты з Мінскага паліграфічнага каледжа, але потым адмовіліся. Магчыма, прадстаўніц цудоўнага пола напалохала пераадоленне воднай перашкоды або паветраная пераправа... Так або інакш, але імкненне дзяўчат пахвальнае. У Расіі, напрыклад, яны - паўнапраўныя ўдзельніцы падобных спаборніцтваў. А выступаць горш за дзяўчат хлопцам неяк не да твару.

Напрыканцы застаецца дадаць: пры падвядзенні вынікаў ваенна-спартыўнай эстафеты для дапрызыўнай моладзі было прынята рашэнне зрабіць яе традыцыйнай і праводзіць кожны год.

**Святлана МАКАРАВА.**

## Юных артыстаў віталі цёпла

***Летнія канікулы пачынаюцца з цудоўнага, цёплага, як промні сонца, свята - Дня абароны дзяцей. Менавіта да яго аддзел адукацыі Заслаўскага гарвыканкама падрыхтаваў падарунак для выхаванцаў Радашковіцкай школы-інтэрната, дзе жывуць і вучацца 215 дзяцей-сірот.***

Школа-інтэрнат (пасёлак Радашковічы) гасцінна прымала юных артыстаў з Заслаўя.

Вучні з дапамогай педагогаў склалі канцэртную праграму, у якой прымалі ўдзел узорны дзіцячы ансамбль народнай песні "Крыніца" (кіраўнік - Н.Н.Маскалёва), вакальная група сярэдняй школы №3 (кіраўнік - І.Р.Амеліна), вучні сярэдняй школы №2 Андрэй Канонік, Ірода Салаева, №3 - Дзіма Амбражэй, Віця Трасцянка. Яны ўдзельнікі і пераможцы агляду-конкурсу мастацкай самадзейнасці "Зоркі Заслаўя".

Інтэрнатаўцы вельмі цёпла сустракалі юных артыстаў. Твары дзяцей свяціліся ад усмешак, у вачах блішчалі іскрынкі радасці. Некаторыя папулярныя песні гледачы спявалі разам з гасцямі.

У школе-інтэрнаце таксама ёсць гурткі, у якіх дзеці займаюцца спевамі і танцамі, таму да канцэрта яны мелі і іншую, так бы мовіць, прафесійную, цікавасць - паспрабаваць параўнаць, а можа, і чамусьці павучыцца.

Невялікім дапаўненнем да канцэртнай праграмы сталі сціплыя, але неабходныя для выхаванцаў школы-інтэрната падарункі. Гарадскі камітэт БПСМ падараваў інтэрнатаўцам канцылярскія прылады, шампуні, зубную пасту, а аддзел фізкультуры, спорту і турызму - футбольныя майкі, ракеткі і шарыкі для настольнага тэнісу.

Намеснік дырэктара Зоя Міхайлаўна Макляк шчыра падзякавала гасцям.

У гутарцы з дырэктарам школы-інтэрната Анатолем Аляксандравічам Вятохам перад развітаннем мы прыйшлі да высновы, што такія сустрэчы павінны мець працяг і стаць традыцыйнымі.

**Наталля СЕЛІВЕРСТАВА.**

